**БЕЛАПАН для "ТМ"**

**Пасьля лібералізацыі валютнага курсу, толькі за два тыдні сьнежня 1999 года банкі вобласьці набылі ў насельніцтва ўтрая больш валюты, чым за ўсе папярэднія 11 месяцаў мінулага года.**

Аднак спэцыялісты папярэджваюць, што аб поўнай перамозе над «чорным» валютным рынкам казаць пакуль рана. Банкі не пасьпяваюць за нелегальнымі «мяняламі», якія штодзённа ўстанаўліваюць больш выгадны абменны курс. Змаганьне зь імі адміністрацыйнымі, а ня рынкавымі мэтадамі прыносіць мала плёну.

●

**На запыт кіраўніцтва Таварыства беларускай мовы да Канстытуцыйнага суду аб незаконным звужэньні карыстаньня роднай мовай у афіцыйных дачыненьнях паміж рознымі ступенямі ўладаў Суд прыняў бок ТБМ,** вынікам чаго сталася распараджэньне ўрада аб абавязковым ужываньні блянкаў, інструкцый, іншай афіцыйнай дакумэнтацыі на абодвух мовах, а ня толькі, як было дагэтуль, на расейскай.

●

**Сытуацыя ў краіне і пытаньні, зьвязаныя з арганізацыяй акцый пратэсту «Вясна-2000», абмяркоўваліся днямі ў Менску Каардынацыйнай Радай дэмакратычных партый і рухаў.**




Удзельнікі пасяджэньня назвалі трывожным становішча ў краіне: улады не зьбіраюцца весьці сур'ёзныя перамовы з апазыцыяй; працягваюцца спробы інкарпарацыі Беларусі Расеяй; узровень жыцьця насельніцтва ў апошнія месяцы чарговы раз упаў. З гэтай нагоды КР прыняла рашэньне падтрымаць шэраг акцыяў пратэсту, заплянаваных на люты, у прыватнасьці – страйк прадпрымальнікаў, сьвяткаваньне дэмакратычнай моладзьдзю краіны Дня Святога Валянціна 14 лютага, а таксама акцыю беларускіх вэтэранаў вайны ў Афганістане, што адбудзецца 15 лютага. Дэмакратычныя партыі маюць намер браць ўдзел у падрыхтоўцы й правядзеньні такіх найбуйнейшых акцый як Дзень Канстытуцыі 15 сакавіка, Дзень Волі 25 сакавіка, традыцыйнага Чарнобыльскага шляху, а таксама сумных ўгодкаў травеньскага рэфэрэндуму 1995 года. На Дзень Волі прымяркоўваецца правядзеньне шматтысячнага шэсьця па галоўным праспэкце сталіцы як працягу леташняга Маршу свабоды. Пра згоду прыняць у ім удзел паведамілі ў КР прадстаўнікі шэрагу дэмакратычных партый Польшчы, Украіны, Літвы і Расеі.

●

**Арганізатары маючага хутка адбыцца рэспубліканскага страйку прадпрымальнікаў сфармулявалі патрабаваньні да ўладаў, пад якімі пройдзе гэтая акцыя.**



Сярод іх: адмяніць (спрosьціць) абавязковы бухгалтарскі ўлік для асобаў, якія ўплацілі фіксаваныя стаўкі падаткаў; аб'явіць мараторый на павышэньне ставак фіксаванага падатку; адмяніць падатак на дабаўленую вартасьць для асоб, якія ўплачваюць фіксаваныя стаўкі падатку; адмяніць абавязковую сэртыфікацыю і гігіенічную рэгістрацыю тавараў, прызнаць сапраўднымі сэртыфікаты іншых краінаў; спыніць вымагальніцтва хабару з боку міліцыі, падатковых кантралёраў і адміністрацый рынкаў, работнікаў выканкамаў.

●

**Магілёў увайшоў у новы год з таварным запасам прадуктаў, якога хопіць толькі на 26 дзён.**

Паводле слоў кіраўнікоў гандлю, у лепшыя часы ў абласным цэнтры меўся запас харчаваньня на 50 – 70 дзён. Аднак тыя ж кіраўнікі ня лічаць бягучае становішча трывожным, бо запасы, па іх словах, штодня папаўняюцца. На нарадзе адзначалася таксама ўстойлівая тэндэнцыя да паніжэньня пакупніцкай здольнасьці жыхароў абласнога цэнтра.

*Гэтыя і іншыя ФОТА — IREX*

**БЕЛАПАН для "ТМ"**

## Прысуд пацьвердзіў безвыходнасьць

Прыкладна гадзіну зачытваў судзьдзя Вярхоўнага Суда Беларусі В.Чартовіч прысуд Васілю Лявонаву. Па большасьці з прад'яўленых абвінавачваньняў Лявонаў быў апраўданы, аднак і таго, што прызнана даказаным, аказалася дастаткова каб адправіць былога міністра ў турму агульным тэрмінам на 4 гады й яшчэ канфіскаваць усю ягоную маёмасьць.

Судом прызнана, што Лявонаў атрымаў у якасьці хабару альбо скраў прадуктаў і рэчаў на суму 115 тысячаў дэнамінаваных рублёў. Гэта каля 130 даляраў ЗША. У Беларусі такая сума лічыцца асабліва буйнай і цягне жорсткае пакараньне. Недаказанымі суд прызнаў абвінавачваньні ў нанясеньні дзяржаве значна большых стратаў. Так, у эпізодзе з фірмай «Рустінвэст» фігуравалі страты ў памеры 614 тысячаў дэнамінаваных рублёў. У 2,5 мільёны новых рублёў ацанілі сьледчыя страты аб'яднаньня «Нафтан», да якіх таксама быццам бы спрычыніўся міністар Лявонаў. Усе гэтыя абвінавачваньні суд палічыў недаказанымі. Зьняў ён зь Лявонава падазрэньне і ў злачынным захаваньні зброі. Суд палічыў, што пратакол перэтрусу ў загарадным доме Лявонава, у выніку чаго былі знойдзеныя баявыя патроны, складзены з парушэньнямі. Аднак цікава, што на гэтыя парушэньні суд спэцыяльна не адрэагаваў. Без увагі засталіся й іншыя учынкі сьледчых, якія былі раней названыя адвакатамі фальсыфікацыяй.

Вось у тым, што Лявонаў – злачынца, судзьдзі не сумняваліся. Пры гэтым судзьдзя Чартовіч абвесьціў, што зачытаны прысуд – канчатковы й касацыйнаму перагляду не падлягае. Грамадзкі абаронца ад Хельсінскага Камітэту Б.Звоскаў, камэнтуючы прысуд, не хаваў абурэньня:

– Гэта чарговая «правая перамога» ваяўнічага невуцтва й, калі хочаце, цемрашальніцтва. Невінаваты чалавек атрымаў 4 гады ды яшчэ без права касацыйнага перагляду.

Сам Васіль Лявонаў, камэнтуючы прысуд, каротка сказаў, што ўсё ж верыць у перамогу справядлівасьці, хаця, магчыма, яе давядзецца чакаць доўга. Лукашэнкавае дачыненьне да сваёй крымінальнай справы пракамэнтаваў так:

– Гэта ён усё даказаў. Навошта? Ёсьць шмат нюансаў, усяго не перакажаш.

Лявонаў разьвітаўся з прысутнымі ў залі, дзе толькі журналістаў і замежных прадстаўнікоў было больш за 50 чалавек, падзячыў за падтрымку і стомлена выйшаў пад канвоем за дзьверы.

Жонка і дачка Лявонава ў размове з журналістамі выказаліся за палітычны характар суда.

Прысуд Васілю Лявонаву ўступіў у сілу з 14-га студзеня. Больш за два гады, якія ён ужо правёў у сьледчым ізалятары, яму залічаныя. Такім чынам былы міністар выйдзе на волю не пазьней чым 11 лістапада 2001 году.

*Алег ГРУЗЬДЗІЛОВІЧ, Менск*

*(Працяг тэмы на 3 стр.)*



РАДЫЁ СВАБОДА
BELARUS SERVICE RFE/RL

## Слоўнік Свабоды

***Другі год Беларуская Служба радыё Свабода вядзе рубрыку «Слоўнік Свабоды. XX стагодзьдзе ў беларускай мове. Слова на дзень для памяці і для роздуму». «ТМ» вырашыў скарыстаць гэтыя матэрыялы ў друкаваным выглядзе з тым, каб дапамагчы нашым чытачам атаясамляць сябе й свае мары з нашай агульнай беларускай ПАМЯЦЬЦЮ І ГІСТОРЫЯЙ.***

### Зямля

*Зямля – гэта тое, што ў нас пад нагамі і тое, што мы маглі б бачыць з космасу. Зямля дзеліцца на тэрыторыі, пляцоўкі, надзелы. Але застаецца адзінай і непадзельнай.*

*Зямля заўсёды сырая, але, часам, гарыць пад нагамі ў акупантаў. Зямля – тое, што нас носіць пры жыцьці, і тое, куды мы кладземся пасьля сьмерці.*

*Зямля вельмі старая. Яна старэйшая ня толькі за асобнага чалавека, але і за ўсё чалавецтва. Калісьці праз мільёны, мільярды гадоў яна астыне, і тады чалавецтва будзе вымушанае шукаць сабе новую зямлю. Пра гэта будуць складацца легенды, міты, пісацца раманы і паэмы.*

*І магчыма тады адзін з гісторыкаў, які будзе займацца далёкім і дзіўным XX стагодзьдзем, прыгадае паэму Якуба Коласа «Новая Зямля». І хаця шмат што з дэкарацыяў эпохі будзе ўжо незразумелым, шмат якія дэталі прыйдзецца тлумачыць у камэнтарах дробным шрыфтам, сама гісторыя пра пошукі кавалка сваёй зямліцы застанецца блізкай і актуальнай.*

*Бо і тая зямля, што ў нас пад нагамі, і тая, што абарочваецца вакол сонца, адная і тая ж зямля.*

**Ігар БАБКОЎ**

### Цывілізацыя

*Цывілізацыя – гэта калі куды вокам ня кінь, усюды бачна ня створанае Богам, а зробленае рукамі чалавека.*

*Напрыканцы XX стагодзьдзя зямная куля як цесны пакой прэс застаўленая людзкім нарабкам. І гэты рукатворны сьвет ужо мае сваю веру – тэхнічны прагрэс, свайго Бога – атамную бомбу, свой судны дзень – ядзерны апакаліпсіс.*

*Тут усё амаль як і ў тым, нерукатворным. З адной толькі розьніцай – Бог стварыў белы сьвет для птушак, зьвяроў, Адама і Эвы, а чалавек вышукаваў цывілізацыю выключна дзеля самога сябе.*

*6 мільярдаў людзей штодня заяхаюцца ля камбайну сусьветнай цывілізацыі, каб забясьпечыць хлебам і камфортам адно толькі чалавека. Пэўна, з гэтага можна цешыцца. Ах, што за асілак, гэты маленькі чалавек, які агораў такую магутную цывілізацыю!*

*Але хай кожны сам сябе запытае: а ці варты я, каб асабіста дзеля мяне, дзеля майго кароткага існаваньня, гіганцкі молах цывілізацыі бяз роздыху перамолваў на друз той жыцьцядайны сусьвет, што адночы быў створаны Богам.*

*Я таксама запытаўся ў сябе, і мне зрабілася вусьцішна.*

**Валянцін АКУДОВІЧ**

### Марыянэтка

*Італьянец Марыёні, які калісьці змайстраваў лялькy для паказу тэатральнае дзеі, наўрад ці марыў патраліць у беларускую штодзённую рэчаіснасьць.*

*Аднак жа. Хто з нас, спадарове, у малепстве ня цешыўся з марыянэткавага тэатру? О, якім цудам здаваліся нам усе гэтыя Пятрушкі, Кашчэі ды Смокі Гарынавічы. І хто б гэта думаў тады, што тыя марыянэткавыя пэрсанажы мы пазнаем пасьля ў асобах зусім не тэатральнага кшталту?*

*Менск, вечар, спэктакаль закончаны, лялькі-марыянэткі спачываюць да іншага разу, патухаюць вагні Менскага лялечнага тэатру. Але доўга яшчэ сьвецяцца вокны ў доме, што па іроніі лёсу месьціцца акурат насупраць. І хоць гэтая спаруда з надпісам «Адміністрацыя прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь» нічым не нагадвае пра сваю прыналежнасьць да тэатральнага сьвету, ды ў сьценах яго ных вось ужо які год ладзіцца ці ня самы абсурдовы марыянэткавы спэктакаль стагодзьдзя.*

*І доўжыцца дзея, і марыянэткавая пляміста-шэрая варта сустракае марыянэткавае аўто, і марыянэткі-людзі прамаўляюць не свае словы, робячы ўсё так, як загадаюць ім дачасу нябачныя крамлёска-лубянскія лялькаводы.*

*І хоць галоўная марыянэтка і сама ўжо не свая, аднак марыянэткавыя крыўкі штодня ўсхваляюць гэты пэрсанаж у марыянэткавай прэсе, а марыянэткавая тэлевізія бясконца цягне аднастайны сэрыял, што невыносна надакучыў наноўпрытомным гледачам.*

*Ды колькі б не цягнуўся гэты спэктакаль, а фінал усё ж немінучы. І запаліцца сьвятло, і палягуць у свае скрыні нашыя марыянэткі, і ўбачыць сьвет таемных лялькаводаў і шчодра адорыць іх сьвістам, пратухлымі яйкамі ды гнілымі памідорамі.*

**Рыгор СІТНІЦА**

